


...Начная саванна. Цішыня. Чуецца тупат конскіх капытоў. Можна распазнаць звон металу, постук сталі аб каменне. Алень, які задрамаў, уздрыгвае, імкліва ўскоквае і мчыцца па тэхаскай прэрыі. У ясным месяцовым святле паўднёвай ночы ён пазнае свайго лютага ворага — чалавека. Але воблік конніка ненатуральны, жудасны, пачварны. Алень, ахоплены жахам, бяжыць зноў. Сілы нябесныя! У конніка няма галавы!..

...Дзень. Ноч. Раніца. Вечар... Мужчына. Жанчына... Легкавы аўтамабіль. Грузавік. Тралейбус. Веласіпед... Сонца. Дождж. Туман. Снег... Горад. Прыгарад. Вёска... Чуецца віск тармазоў. Можна распазнаць скрыгат жалеза, звон разбітага шкла. Чалавек, які гэта бачыць, не бяжыць. Ён глядзіць, здымае на мабільны тэлефон, абмяркоўвае... Ён не лічыць аўтамабіль сваім лютым ворагам. Ён цвёрда засвоіў, што аўто — гэта не раскоша, а сродак перамяшчэння. Ды і куды бегчы, калі ўсюды — жалезныя коні, а галоўны вораг чалавека — гэта ён сам?..

Калі нецвярозы садзіцца за руль аўтамабіля. Калі ў снег і ў дождж упарта ціснe на газ. Калі перасякае суцэльную падвойную лінію. Калі разварочваецца на скрыжаванні. Калі разам з дзіцем за руку перабягае дарогу куды вочы наставіў. Калі не прапускае пешахода. Калі лянуецца начапіць сабе на адзенне флікер. Калі едзе і бяжыць на чырвонае святло святлафора. Калі адважна кідаецца на пешаходны пераход, нават не паглядзеўшы, ці спыняюцца машыны. Калі...

На МКАД спадарожнай машынай збіты вадзіцель, які папраўляў знак аварыйнага прыпынку... Пад Гомелем «Жыгулі» пратаранілі ў «лоб» Renault... Непадалёк ад Крупак нецвярозы вадзіцель без правоў наехаў на пешахода... У Гомелі сутыкнуліся хуткая дапамога і грузавік «мерседэс»... Вадзіцель тралейбуса справакаваў ДТЗ у Брэсце.... Вадзіцель Land Rover у Жлобіне збіў дзяўчынку насмерць... Жыхарку Мінска ужо 11 разоў супрацоўнікі ДАІ спынялі нецвярозую за кіраваннем аўто.... Малакавоз уехаў у гужавую павозку, з-за чаго загінуў чалавек... Гэта не фільм-катастрофа, не жахлівыя фантазіі. Гэта — топ-навіны аднаго з вядомых аўтамабільных сайтаў. Дакладней, маленькая частка тых загалоўкаў, якімі стракацяць яго старонкі.

Паглядзіце, колькі навокал аўташкол! Як грыбоў пасля дажджу. Такое адчуванне, што літаральна ўсім жыхарам нашай краіны закарцела асядлаць жалезнага каня. І з школы-аўтаканвеера, які працуе вельмі хутка, сыходзяць усё новыя і новыя вадзіцелі. (Дарэчы, цяпер у аўташколах у асноўным вучыцца моладзь ад 18 да 27 гадоў, і дзве трэці з іх — дзяўчаты.) Але якая іх прафесійная падрыхтоўка, калі ў асобных аўташколах экзамен на атрыманне вадзіцельскага пасведчання з першага разу здае толькі некалькі чалавек з групы? Уяўляеце працэнт здачы: пяць чалавек з трыццаці? І хіба гэтыя дваццаць пяць няўдачнікаў авалодаюць за той час, што адводзіцца на пераздачу, тымі ведамі, уменнямі і навыкамі, якімі павінен валодаць сапраўдны вадзіцель і якімі іх павінны былі навучыць у аўташколе? Наўрад ці. І няхай прадстаўнікі аўташкол не пагаджаюцца з такім крытэрыем ацэнкі, як «здача з першага разу» і нават патрабуюць яго адмяніць ці замяніць крытэрыем «бяспечнае ваджэнне на працягу года», але факт застаецца фактам: падрыхтоўка вадзіцеляў у аўташколах у пераважанай большасці ніяк не цягне на «выдатна».

І, відаць, зусім не кожны, хто садзіцца за руль, усведамляе, якую ён бярэ на сябе адказнасць. Вадзіцель адказвае за сябе, за свой аўтамабіль, за пасажыраў. Вадзіцель павінен прадугледзець паводзіны іншых вадзіцеляў, пешаходаў, стан дарогі, прагноз надвор'я і іншае. Вадзіцель абавязаны выконваць правілы дарожнага руху, своечасова праходзіць тэхагляд машыны, быць уважлівым, пільным, засяроджаным... Так павінна быць. А як ёсць на самай справе? Чытайце зводкі дарожна-транспартных здарэнняў! Сеў у аўтамабіль (добра, калі цвярозы), націснуў на педаль газу і — паехаў... па сваіх правілах. А там, як кажуць, Бог ведае...

Але чаму? Чаму чалавек так лёгка адносіцца да свайго жыцця? І да чужога таксама. Адкуль узялася гэта лёгкасць, з якою так потым нялёгка жыць? Можа, жыццё вінавата?

Жыццё, у якім усё вырашаюць грошы. Хочаш супер-пупер аўто? Былі б грошы! Не хочаш здаваць на правы? Купляй! Парушыў правілы? Плаці!.. Лёгкасць, з якою вырашаюцца разнастайныя пытанні, калі чалавек мае грошы, нараджае скажонае ўяўленне ўвогуле пра правілы, нормы, традыцыі. Як кажуць, грашыма і на тым свеце дагодзіш, але ці варта туды спяшацца? Нават калі ты на «лексусе». Чалавечае жыццё цаны не мае...

Ці вінаваты вопытныя вадзіцелі, якія паказваюць дрэнны прыклад пачынаючым ездакам? Курсант едзе з інструктарам і запамінае: так нельга, тут трэба так, а там — вось так. А побач — вадзіцелі, якія ездзяць як хочуць! Неўзабаве курсант сам стано-



віцца вадзіцелем, выязджае на дарогу — і дашчэнту забывае пра ўсё, чаму яго вучылі. Становіцца такім, як усе. Каб не перашкаджаць іншым. Парушаць правілы дарожнага руху.

Ды і адказнасць за такія паводзіны, скажам шчыра, зусім не суровая. Але, размаўляюць вадзіцелі па мабільных тэлефонах, ці не прышпільваюцца рамянямі бяспекі, або праязджаюць на чырвонае святло... Ну і што? Не злавілі — не злодзей, як кажуць. А свой брат яздок, які едзе побач, на ўсё гэта заплюшчыць вочы. Ну, не прынята ў нас адразу паведамляць у міліцыю пра парушальніка, не прынята клапаціцца пра бяспеку на дарозе як пра бяспеку ва ўласнай кватэры... Сёння ён парушыў, я — прамаўчаў, заўтра я парушу, ён — прамаўчыць...

А калі б усе парушэнні фіксаваліся, суміраваліся і тыя, хто «набраў» крытычную колькасць балаў, пазбаўляліся б вадзіцельскіх пасведчанняў, то дысцыпліна на дарозе памянялася б істотна. Не ўмееш ездзіць па правілах — аддавай правы. Навучыўся ездзіць (скажам, скончыў нейкія спецыялізаваныя курсы — абавязкова платныя! — па павышэнні кваліфікацыі) — атрымлівай правы назад. На жаль, пакаранне рублём — самы дзейсны сродак уздзеяння на свядомасць чалавека, і прафілактычныя гутаркі тут мала чым дапамогуць. А ўвогуле, напрыклад, у Германіі існуе так званы «псіхен тэст». Маўляў, калі вадзіцель парушае ПДР, значыць, ён хворы на галаву і павінен (за свае грошы) здаць гэты тэст. І, вядома, чалавек задумаецца: «Навошта мне гэта трэба? Няўжо ў мяне сапраўды не хапае мазгоў, каб ездзіць, не парушаючы правіл?..»

А наш яздок тым часам едзе, коціцца, газуе, прэцца, рвецца, ляціць, нясецца... Дай яму, Божа, галавы на плячах!

**Дунька ШЫП.**










Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




**Дарагі сябра!** Наведаў я нядаўна краму. Купіў сёе-тое. А калі прыйшоў дадому і прачытаў наклейкі на асобных пакупках, то ў мяне адняло мову. А што скажаш ты, калючы дружа, калі ўбачыш гэтыя этыкеткі?







**Андрэй ПЯТРЭНЯ,**
*жыхар мікрараёна Малінаўка г. Мінска.*

***Ад «Вожыка»**: Паважаны Андрэй! Я магу адказаць табе толькі словамі вядомай прыказкі: «Кожны стралец сваю стрэльбу хваліць». Асабліва сёння, калі вытворца змагаецца за пакупніка як можа...*



**Братка Вожык!** Ведаеш прымаўку: «Хоць бачыць вока, ды дастаць далёка»? А ці здагадваешся, пра што гэта? Пра расклад руху аўтобусаў на сталічным аўтавакзале «Маскоўскі».

Стэнды з назвамі маршрутаў і часам адпраўлення-прыбыцця прымацаваны на сценах вакзала высока ўверсе, і нават чалавеку з добрым зрокам трэба напружыць вочы, каб убачыць радок з патрэбным аўтобусам. А што ўжо казаць пра людзей сталага веку? Ды і не кожны зможа стаяць, задзёршы галаву, і то вышукваць вачамі радкі патрэбнага маршрута, то запісваць іх сабе на паперку. Можа, варта было б увогуле надрукаваць расклад руху прыгарадных аўтобусаў хаця б на найбольш «людныя» маршруты (напрыклад, на Лагойскі напрамак) і рэалізоўваць для пасажыраў, як гэта робіцца з раскладам прыгарадных электрычак? Ці аўтавакзалу не патрэбны ні «лішнія» грошы, ні «лішні» клопат?

**Таццяна ЗАБАРОНАК,**
*г. Лагойск.*






Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Янусь МАЛЕЦ**

# *Атлантаўкі*

*Дзяўчатам-курыльшчыцам*
*з аб'яднання «Атлант» і не толькі.*

На лавачках — атлантаўкі,
Нібы на дроце ластаўкі.
Прыгожыя, як кветкі,
Таццяны, Люды, Светкі,
Тамары, Жанны, Ніны,
Галіны і Марыны,
Хоць прысвячай ім гімны!
Ды па-над імі — дымна...

Дзяўчыначкі, дзяўчаткі,
Варвары і Агаткі,
Скажыце, а не сорам
Смаліць цыгаркі хорам?
Няўжо вам гэта трэба?
Вы ж закапцілі неба!
Была б у сонца пуга —
Было б вам, дзеўкі, туга!..





**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

## СА СТАРОГА СШЫТКА

- На гародзе стары хрэн усё яшчэ заляцаўся да маладой бульбы.
- Курыца ніколі не адкладвае на заўтра тое, што можна знесці сёння.



- Жонка пілуе мужа, каб было чым падтрымліваць агонь у сямейным ачагу.
- Рыбу «ўвянчалі лаўрамі»: зварылі з лаўровым лістом.



- Дырэктар рынку заўсёды прыйдзе на выручку прадпрымальніку, асабліва калі выручка за дзень добрая.
- Пакуль адны ловяць жар-птушку, другія ядуць курыцу.



- Адным даецца ўсё, другім — астатняе.
- І пры вілянні хвастом можна паказаць размах.
- Іншы раз толькі падумаеш, а ўжо загадваюць памаўчаць.



- Думай, што гаварыць там, дзе нельга гаварыць тое, што думаеш.
- Раней цанілі геніяльных, цяпер — генеральных.




## Прагноз для сіноптыкаў

***Брэсцкая вобласць.*** За што атрымліваў сваю немалую зарплату начальнік аналітычнай лабараторыі ў г. Баранавічы Брэсцкага абласнога цэнтра па гідраметэаралогіі і маніторынгу навакольнага асяроддзя цэлых паўгода — з ліпеня 2011 года па студзень 2012 года — не ведае ні ён сам, ні ягонае абласное кіраўніцтва. За гэты час не было зроблена ніводнага аналізу паветра ці атмасферных ападкаў. Ды як было рабіць? Лабараторыя «працавала» толькі на паперы.

Калі ж таўшчыня пылу на абсталяванні, набытым для лабараторыі за 534 мільёны рублёў, дасягнула на складзе за паўтара года крытычнага стану, для аналізу сітуацыі мусілі з'явіцца кантралёры. Іх прагноз для Брэстаблгідрамета несуцяшальны...



## Лом і «аблом»

***Лунінецкі раён.*** Дзевяць мясцовых дзялкоў шчыра верылі ў тое, што супраць лому няма прыёму. І смела скуплялі ў Беларусі, а затым прадавалі ў Расіі лом чорных і каляровых металаў. Іх шмат разоў затрымлівалі міліцыянеры і кантралёры, але «металісты» на такія «дробязі» ўвагі не звярталі.

У выніку са снежня 2011 года па сакавік 2012 «зарабілі» ні многа ні мала 444 мільёны рублёў і — крымінальную справу супраць усіх дзевяці. На аўтатранспарт і іншую маёмасць дзялкоў агульным коштам 500 мільёнаў рублёў накладзены арышт, а іх чакае лава падсудных...




## Выпіць з гора

***Магілёў.*** Адны людзі любяць выпіць. Другія — прадаюць ім напоі. А трэція — гандлююць замежнымі спіртнымі напіткамі без акцызных марак.

Такім «бізнесам» разам са знаёмымі «чаўнакамі» займаўся і 49-гадовы магіляўчанін. Міліцыянеры затрымалі гэтага алкапрадаўца, калі той спрабаваў збыць тузін бутэлек віскі. А ў яго дома сваіх пакупнікоў чакалі яшчэ 45 бутэлек віскі, каньяку і тэкілы. Усяго было забрана 57 літраў дарагога алкаголю на агульную суму 25 мільёнаў рублёў.

Цяпер прадаўцу з-пад крыса пагражае штраф з канфіскацыяй напояў. Цікава, ці хапіла яму вытрымкі, каб не выпіць з гора?



## Мільёны і мільярды...

***Мінск, Гомель.*** Што робяць прыватнікі, калі не хочуць плаціць падаткі? Здагадацца няцяжка: займаюцца рознымі махлярствамі.

Так, дырэктар аднаго сталічнага прыватнага прадпрыемства, выйграўшы тэндар, прывёз з Расіі для дзяржаўнага прадпрыемства абсталяванне коштам 278 мільёнаў рублёў. (Праўда, нелегальна, без дакументаў.) А затым аформіў яго ад ілжэпрадпрымальніцкай фірмачкі і тым самым «сэканоміў» больш за 90 мільёнаў рублёў.

«Эх, драбяза! — хмыкне дырэктар другога гомельскага прыватнага прадпрыемства. — Вось я ад падаткаў больш за 500 мільёнаў рублёў утаіў — і то маўчу!» Але замоўчаць буйны падлог з падстаўной фірмай, звязанай з металапракатам і здзелкамі амаль на паўтара мільярда рублёў, усё ж не ўдалося.

Што даражэй — плаціць у бюджэт падаткі ці сесці на лаву падсудных — будуць вырашаць цяпер для сябе «эканомныя» прадпрымальнікі-круцялі.




***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




*Жыццёвае*

Сустрэліся аднойчы два сябрукі.

– Чаму такі сумны? – запытаўся Антон.

– Лепш не пытайся. Не сплю ўжо якую ноч!

– Дык што здарылася? Расказвай, Паша, я ж твой лепшы сябар!

– Разумееш, мне тэрмінова спатрэбіліся грошы. Хадзіў да Алега, думаў, ён пазычыць. Сказаў, што няма. Пайшоў да Валеры – таксама адмовіў. Учора да Юры зайшоў – той жа адказ... Тыдзень бяссонніцай мучаюся. Антон, ты мая апошняя надзея!..

– І табе не сорамна, Паша? Звярнуўся да мяне ў апошнюю чаргу. Хіба я не сябар табе?

– Ды я і падумаць не мог, што ты мяне выручыш!

– Вядома, дапамагу. На вось, трымай!

– Што гэта? – няўцямна лыпнуў вачыма Паша.

– Таблеткі ад бяссонніцы. Кажуць, вельмі дапамагаюць!..

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*




Кузьма аднойчы разважаў:
«Вось каб чыноўнікам я стаў,
Працоўны люд бы паважаў,
Паперы б хутка выдаваў,
Чаргу б ніколі не збіраў
(Не раз ён чэргі тыя кляў)...»

Гарэза-лёс Кузьме ўсміхнуўся –
І ён начальнікам прачнуўся.
У крэсле мяккім утапіўся,
Душой і целам абнавіўся.
Партфель учэпіста трымае,
Цяпер цвяроза разважае:
«Чарга без краю? Пачакае!
І без яе турбот хапае!..»

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

# Сатырычнае этра

Актуальна!

ПАМФЛЕТЫ
ФЕЛЬЕТОНЫ
БАЙКІ
КАРЫКАТУРЫ




– Сыночак, табе ж яшчэ рана жаніцца.
– Гэта мая справа!
– Ды на якія ж сродкі вы жыць будзеце?
– А вось гэта твая справа.

Малюнак В.САЛАЎЁВА.




– Тата, а што ў першай серыі?
– Спытай у дзеда. Я тады сам яшчэ быў маленькім.

Малюнак Г. БУРАЧЭЎСКАГА.




Прывык ён да такой арыентацыі:
То лезе у крэдыт, то жывіцца датацыяй.

Малюнак У. БАРАНОЎСКАГА.




– Якую кнігу вы параіце купіць навасёлам?
– Вось гэтую.

Малюнак М. РУДКОЎСКАГА.




– А што вы хацелі выказаць сваёй карцінай?
– Цяпер ужо і сам не памятаю.

Малюнак Я. БУСЛА.




*— Вось табе, дачушка, імпартная соска...*




*— Прымерай імпартную кофтачку...*




*— Вось табе імпартны магнітафон...*



*— Хачу імпарт-на-а-га жані-ха-а...*

Малюнак М. ГІРГЕЛЯ.






Малюнкі Алега ПАПОВА.

**Аляксей КАЎКО**




З натуры

Іван Іванавіч вельмі любіў спорт. Праўда, сам ён ніколі не трымаў у руках клюшкі, не падымаў штангу, нават у шашкі апошні раз гуляў яшчэ школьнікам. Але затое Іван Іванавіч любіў глядзець спартыўныя тэлеперадачы. Калі гуляла яго любімая каманда, то гучныя воклічы: «Трымай правы край!», «Левай бі! Левай!», «Мазіла! Разява!» ці «Суддзю на мыла!» разносіліся па ўсім шматкватэрным доме.

Суседзі спачатку цярпелі, потым спрабавалі ўтаймаваць заядлага аматара спорту, ды дзе там! «Мая кватэра! Што хачу, тое і гляджу», — адмахваўся ад іх Іван Іванавіч. І тады яны вырашылі выбіваць клін клінам: як толькі пачынаўся футбольны матч, дружна пераключалі свае тэлевізары на музычныя каналы на поўную гучнасць. Мяч трапляе ў вароты — зверху чуецца: «Ты — марачка, я — марак, ты — рыбачка, я — рыбак!..»; нападаючы б'е па мячы не той нагой — знізу даносіцца: «Я встретил вас — и всё былое...»

Іван Іванавіч адчуў сябе, як воўк падчас аблогі. Не вытрымаўшы, ён усцягнуў на вушы старую шапку-вушанку. І адразу настрой узняўся: гукаізаляцыя выключная!

Цяпер Іван Іванавіч глядзіць па тэлевізары лыжныя гонкі...

*г. Іванава.*

*«Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга сябра, журналіста, пісьменніка, аўтара шматлікіх гумарыстычных твораў Аляксея Трафімавіча Каўко з шаноўным юбілеем – 90-годдзем – і жадае яму моцнага здароўя, аптымізму і творчага плёну!*

УСМЕШКА

## Вось дык клятва!

Бабуля Маня (ёй 75 гадоў), выслухаўшы скаргу суседкі на ўрача, які не хацеў яе агледзець, бо быў канец рабочага дня, моцна абурылася і ўсклікнула:

– Бачыш ты яго, які бессардэчны! А яшчэ Каніба-лу клятву даваў!..

**Даслала Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*






Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.

## Як стала вядома...

### Яблыкі нарыхтавалі

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама А. Ісачэнка запэўніў, што «Яблыневыя анамаліі» («Вожык» № 1 за 2012 год) былі выпадковымі. Таму план 2011 года па нарыхтоўцы пладова-ягаднай прадукцыі ад насельніцтва Бабруйскі райспажыўсаюз нават перавыканаў. Аб'явы пра нарыхтоўку яблыкаў размяшчаліся ў раённай газеце і на дошках аб'яў прадмагаў райцэнтра з ліпеня па кастрычнік 2011 года. Праўда, А. Ісачэнка змоўчаў, што ў раёнцы інфармацыя была надрукавана ўсяго аднойчы — у канцы ліпеня...



### Звольнены з пасады

Дырэктар ААТ «Бальшавік-Агра» П. Гайкевіч уважліва вывучыў крытычны матэрыял «Каперфільд адпачывае», надрукаваны ў «Вожыку» ў № 1 за 2012 год, і пагадзіўся з напісаным. А таксама праінфармаваў, што матэрыялы праверкі КДК былі разгледжаны ў Салігорскім райвыканкаме і на прадпрыемстве «Бальшавік-Агра». Адказныя асобы, вінаватыя ў злоўжываннях, пакараны: намеснік дырэктара па жывёлагадоўлі і бухгалтар па ўліку ў жывёлагадоўлі звольнены з пасады, астатнія спецыялісты і кіраўнікі сярэдняга звяна прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасці.



### Вуліцу адрамантуюць

Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама В. Сакоўскі ўважліва вывучыў крытычныя матэрыялы «Вожыку» пішуць...» М. Трушко («Вожык» № 1 за 2012 год) і «Сарваўся... мільярд» («Вожык» № 2 за 2012 год) і патлумачыў сітуацыю. Для будаўніцтва чыгуначнага прыпынку ў раёне вёскі Асавая (з абсталяваннем пасадачнай платформы і падыходаў да прыпынку, устаноўкай павільёна для пасажыраў, добраўпарадкаваннем тэрыторыі, наладкай асвятлення і іншым) неабходна каля 350–450 мільёнаў рублёў. Забяспечыць фінансаванне будаўніцтва за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў не ўяўляецца магчымым: у гэтым годзе Брэсцкая вобласць адчувае недахоп адпаведных выдаткаў. Увогуле акупаемасць прыгарадных перавозак пасажыраў чыгуначным транспартам па УП «Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі» складае не больш за 15 працэнтаў. Адкрыццё вышэйназванага прыпынку пры павелічэнні эксплуатацыйных расходаў і нізкім пасажырапатоку прывядзе да яшчэ большага росту стратнасці перавозак.

Што тычыцца добраўпарадкавання вуліцы Доўгай у горадзе Баранавічы, то з будаўнічай арганізацыяй, якая раней займалася дадзенымі работамі, кантракт скасаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам, а парушэнні выпраўлены. На сённяшні дзень па аб'екту асвоена 758 мільёнаў рублёў, работы будуць працягвацца і далей.



### Не да сну...

Намеснік старшыні Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Гомельскага аблвыканкама І. Барышчык прачытаў сатырычны матэрыял «Калі спяць у шапку...», надрукаваны ў другім нумары часопіса за г. г., і паведаміў, што грашовыя сродкі, выкарыстаныя не па мэтавым прызначэнні, вернуты КСУП «Прыболавічы» ў бюджэт, а дырэктару П. Лозку аб'яўлена вымова. Дырэктара КСУП «Іванава Слабада» за той жа «грэх» вызвалілі ад займаемай пасады. Грошы ў абласны бюджэт прадпрыемства верне ў адпаведнасці з графікам – да 20 мая 2012 года.

### «Геройства» скончылася

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Савецкага раёна г. Мінска Д. Новікаў прачытаў сатырычны матэрыял Я. Кручыны «Героі?!» («Вожык» № 2 за 2012 год) і патлумачыў, што шыльда рэкламнага характару «В ЖИЗНИ ВСЕГДА ЕСТЬ МЕСТО ПОДВИГУ ГЕРОИ BAR» была ўстаноўлена без дазволу мясцовага выканаўчага і распарадчага органа. Таму ў адрас рэкламараспаўсюджвальніка – ЗАТ «Синерджи Партнерс» – вынесена прадпісанне аб парушэнні заканадаўства і дэмантажы дадзенай рэкламы. «Геройства» скончылася...



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

### Зноў на аўкцыён

Намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама М. Кірыенка падрабязна патлумачыў сітуацыю, пра якую напісаў «Вожык» у № 2 за г. г. у сатырычным матэрыяле «Узялі ў абарот». Плацяжы па пяці будынках камунальнай маёмасці, прададзеных праз аўкцыён, былі затрыманы з-за цяжкага фінансавага становішча пакупніка, які тым не менш не адмаўляўся ад набытай уласнасці. Урэшце пасля шматразовых парушэнняў дагаворных адносін дагаворы куплі-продажу на гэтыя аб'екты з нядобрасумленным пакупніком былі скасаваны, а будынкі зноў выстаўлены на аўкцыён.




*Фотарэпартаж*

Калі часам у мяне бывае дрэнны настрой, я карыстаюся надзейным сродкам для яго паляпшэння — пазіраю на розныя рэкламныя плакаты, аб'явы, шыльды... Паверце: калі да некаторых з іх пільна прыглядзецца, на твары абавязкова з'явіцца ўсмешка. Таму такія «перлы» я заўсёды фатаграфую. На вясёлую памяць.

Напрыклад, летась на сталічных вуліцах можна было ўбачыць вось такую рэкламу аднаго мабільнага аператара.




Прыйшоў у салон сувязі, заплаціў грошы, падключыўся... А табе за гэта — па шапцы далі? Вось і вер далей вясёламу смайліку на лагатыпе!

Насцярожваюць іншы раз і назвы некаторых прадуктаў.




Штосьці мне падказвае, што гэта была не надта смачная хурма. Няхай сабе і з Іспаніі.

А як шмат значыць у жыцці правільны ракурс!




Хаця, калі прыгадаць размовы будаўнікоў, усё становіцца на свае месцы. Коратка і ясна: мат будаўнічы. А яшчэ: трохпавярховы. У сэнсе — будынак (якраз тры паверхі мае).

А яшчэ я ведаю, што калі вельмі захочацца салодкага, можна адкрыць пару карабак... з абуткам.




Толькі, мне здаецца, гатаваць яго трэба неяк па-асабліваму, каб ён быў салодкі і ўсім падабаўся. На смак.

І напрыканцы. Не бойцеся фатаграфаваць! Гэта цікава і весела. А калі хвалюецеся, што не атрымаецца, зазірніце ў адпаведны аддзел магазіна — і вынік вас не расчаруе!




Таму не сумуйце, а вось такую рэкламу фатаграфуйце. І дасылайце ў «Вожык»!

**Гумарыст-фатограф**
**Наталля КУЛЬГАВАЯ,**
*г. Мінск.*

**Віктар КУНЦЭВІЧ**

## Каханне маё такое

Закахаўся я ў жанчыну,
І было б усё так чынна,
Каб не тая закавычка,
Што завецца шкоднай звычкай.
Як прыйду я на падпітку,
То настрой у Мар'і хісткі:
Круціць носам і азадкам.
На падпітку ж я азартны.
А яна: «Які смурод!»
І кладзе далонь на рот.
Смешна вам?
Мне ж не да жартаў:
Як мне быць з маім азартам?
Плюнуў я. Знайшоў кабету.
Мы з гарэлкай, з цыгарэтай.
Мы — абое ёсць рабое.
Толькі што ж гэта такое?
Я — у норме. Я — азартны,
А яна мне: «Заўтра, заўтра...
Гэта справа не гарыць:
Налівайма, будзем піць!»



## Страчанае шчасце

Прайшло, мінулася,
Бясспрэчна, назаўжды.
Спадзеўна пасміхнулася.
Гэй, шчасце, ты куды?
Ды не, не азірнулася,
Паскорыла хаду.
Яно прайшло, мінулася,
А следам я іду.
Глядзіць насмешліва зіма:
Дарма спяшаешся, дарма...




*«Вожык» віншуе свайго магілёўскага сябра, пісьменніка, гумарыста Віктара Іванавіча КУНЦЭВІЧА з дзвюма пяцёркамі — 55-годдзем — і жадае яму творчых поспехаў, натхнення і вясёлага настрою!*



# Ні Хайфа, ні кайфа...

*Фельетон*



Адны людзі бываюць наіўныя. Другія — нахабныя. І калі па волі лёсу яны сыходзяцца разам, закручваюцца такія сюжэты, што Шэкспіру і не снілася!

У свае 57 гадоў жанчына з Радашковіч (прозвішча да суда называць не маю права) выглядала прыгажуняй. Ну, нібыта Джульета. Таму нядзіўна, што 74-гадовы пенсіянер з Магілёва (прозвішча таксама змоўчу) адразу закахаўся ў яе. Нібыта Рамэо.

— Гора мне, — шчыра прызнаўся «Рамэо» «Джульеце». — Я вельмі даўно мару патрапіць на зямлю запаветную, на бераг Міжземнага мора, у цянёк фінікавых пальм, але...

— Няма грошай, — пакпіла кабета і сумна ўздыхнула.

— Ды не, грошай у мяне куры не клююць. Мне жанчыны для ўезду на гістарычную радзіму не хапае.

— Мой іўрыт, канечне, далёкі да дасканаласці, — ажывілася «Джульета», — але скласці кампанію я магу. Тым больш, што ў мяне адпаведнае ізраільскім іміграцыйным законам прозвішча. Пару дзён — і ты ў Хайфе.

— Вось гэта кайф! — узрадаваўся пенсіянер.

— Ну, што, ідзём у ЗАГС? Дарэчы, яшчэ магу дапамагчы вельмі выгадна абмяняць твае рублі на долары!

На радасцях «Рамэо» аддаў нявесце 15 мільёнаў рублёў і 1000 еўра ды стаў збіраць чамаданы... Мінуў дзень, другі, а ні долараў, ні будучай жонкі на гарызонце не вымалёўвалася.

З'явілася яна пазней. І ўжо ў Барысаве. Калі ж міліцыянеры затрымалі падманшчыцу і спыталі пра грошы магілёўскага «Рамэо», толькі сумна ўздыхнула:

— Ну, засталося пару мільёнаў...

— І ўсё? А дзе ж астатнія?

— Не памятаю.

Цалкам верагодна, што тут «Джульета» не маніла. Дзе ты ўсё ўпомніш? Як высветлілася, за ёю цягнецца хвост ажно ў 15 махлярстваў. Прайдзісветка не цуралася ні крадзяжу (сцягнула ў жыхаркі Гродна значную суму грошай), ні ашуканства (прадставіўшыся агентам прыватнай гандлёвай фірмы па продажы тэлевізараў «Гарызонт», узяла ў жанчын з Гомеля аванс нібыта за танныя тэлевізары і знікла), ні іншых афер...

Наіўнаму магілёўскаму «Рамэо» адкрыліся нарэшце вочы на нахабную «Джульету». Астатнім жа рамантычным мужчынам з рублямі, доларамі і еўра ўсё ж раю быць больш пільнымі: шэкспіраўскія трагедыі не-не ды паўтараюцца...

**Антось ГАРЧЫЦА.**








Малюнкі Алега ПАПОВА.




Вікенцій
ПУЗАНКЕВІЧ



Узнагарода знайшла свайго героя.



Аўташарж.

## Чалавек шматграннага таленту

Творчы дыяпазон аднаго з самых таленавітых айчынных мастакоўкарыкатурыстаў Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА надзвычай шырокі. Архітэктар па адукацыі, ён распрацоўваў узоры мэблі і абсталявання для гасцініц, займаўся прамысловай графікай, дызайнам і рэкламай, дробнай пластыкай, разьбой па дрэве, афармляў кнігі...
І — заўсёды, яшчэ са студэнцкіх гадоў — маляваў карыкатуры.
Яго работы друкавалі, бадай, усе нашы вядомыя газеты і часопісы — «Знамя юности», «Чырвоная змена», «Вечерний Минск», «Звязда», «Белорусская нива», «Мінская праўда», «Автогазета», «Гастроном», «Туризм и отдых», «Фемида», «КОД», «ДИО», «Родная прырода», «Наш дом», «Алеся» і іншыя.
З «Вожыкам» В. Пузанкевіч знаёмы ўжо больш як 30 гадоў. Найвышэйшая школа малявання, стараннасць, адданасць справе карыкатуры,














тэматычная разнастайнасць малюнкаў – ад лёгкага гумару да складаных філасофскіх графічных работ – вылучае Вікенція Іванавіча сярод калег па пэндзлі.

Сёння Вікенцій Пузанкевіч працуе мастаком-рэстаўратарам у гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе», надае старым рукатворным рэчам новае дыханне. Дарэчы, нядаўна ён быў прызнаны лепшым работнікам музея па выніках 2011 года і ўзнагароджаны дыпломам аддзела культуры Мінскага райвыканкама. Віншуем і ганарымся!

Акрамя таго, Вікенцій – заядлы турыст. Абышоў з сябрамі Беларусь уздоўж і ўпоперак, пабываў у яе самых далёкіх кутках, праплыў на байдарках і плытах некалькі беларускіх і расійскіх рэк.

Словам, таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. І яркі прыклад таму – архітэктар, дызайнер, мастак, карыкатурыст, афарміцель, рэстаўратар, турыст Вікенцій Пузанкевіч. Нам толькі застаецца пажадаць яму моцнага здароўя і творчага плёну ды павучыцца ў яго сціпласці, працавітасці, адказнасці, шчырасці і аптымізму!









*На здымках тэлефільма пра старажытнае Заслаўе.*















## Пятро РАДЗЕЧКА

### Здаецца, трэба ўсё-ткі памаліцца!

*Пішу. Грашу. Пішу. Грашу. Пішу...*
*Ганна МІКЛАШЭВІЧ*

Раскрыю, як на споведзі, душу,
Чым я жыву, як услаўляю неба:
Пішу. Грашу. Пішу. Грашу. Пішу...
А больш нічога мне ў жыцці не трэба!

Ні помнікаў, ні славы не прашу,
Да скону дзён, што сэрца будзе біцца –
Пішу. Грашу. Пішу. Грашу. Пішу...
Ой, не! Здаецца, трэба ўсё-ткі памаліцца!..

## Мікола КУТАС

### Ваяр-абаронца

*Іспытамі хрышчоныя не раз, не два*
*Мікуцічы, Аталезь, Рубяжэвічы,*
*Вечатарова, Свержань і Літва –*
*Гісторыя з нядоляй іх ажэнена.*

*Ячонка, Ячнае, Шашкі, Пруды,*
*Дразды, і Скамарошкі, і Савоні,*
*І Дзераўная праз усе гады*
*Чакалі: хто ж іх абароніць?*
*Яўген ХВАЛЕЙ*

Стаўбцоўшчына, паклон тваёй красе,
Яна упарта непакоіць сэрца.
Найперш пералічу я вёскі ўсе,
Глядзіш – з паўкніжкі назваў набярэцца.

Затым куплю ружжо, каб бараніць
Ваколіцы, дзе селішчаў вытокі.
Галоўнае у справе – заявіць,
Што бой пачаўся і ўжо ёсць урокі.

Наперадзе – трыумф! Але пакуль
Мяне хоць з Дон Кіхотам параўнайце.
Дам ворагу параду: «Уцякайце,
Хвалей для вас не пашкадуе куль!»



## Расціслаў БЕНЗЯРУК



### З кнігай у ложку

*І замест жанчыны ў маім ложку*
*Зноў ляжыць разгорнутая кніга.*
*Аляксей БЕЛЫ*

Я душой пенсіянер.
Дзе мне ўжо сваволіць?
Быў бы, скажам, кавалер,
Дужы абаронец, –
Заляцаўся б да блудніц
І цягаў за косы,
Мог бы нават паваліць
На чужым пакосе...
Ох, для суму шмат прычын,
Сплю адзін да рання –
У мяне замест жанчын
Кніга пра каханне...






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## Генадзь АЎЛАСЕНКА



### Дажартавалася

*Кашуля твая – без гузіка.*
*Відаць мне кавалак пузіка.*
*Усмешачка – без паўзубіка.*
*І сам ты, як кубік Рубіка.*
*Таццяна БУДОВІЧ*

З кашулі зрэзала гузікі,
Каб бачыць кавалак пузіка.
А ён як шпульне кубік Рубіка...
І ўсмешка мая – без паўзубіка.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# КАНФУЗ ПРАДКАЗАЛЬНІКА

*На прыёме ў прадказальніка.*













*На наступны дзень…*







*Праз некаторы час…*







**Усё!**

Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

# Непрыдуманыя гісторыі

## Хіцер Зміцер

Людзі кажуць, што гэты лапік зямлі на Нарачы падобны на карабель і называюць яго востравам Кахання.

Адзін жа мясцовы жыхар паглядзеў на гэты цуд прыроды з практычнага боку і зрабіў там... маленькі спіртзаводзік. Дабіраўся туды на лодцы, прывозіў брагу, гнаў самагонку... Здаралася іншы раз, што зашмат каштаваў таго напою. Тады спяваў песні: усё роўна ніхто не пачуе. Але людскія вочы ўсё бачылі, людскія вушы – усё чулі.

І неўзабаве на востраў – а іншымі словамі, на месца злачынства – накіраваўся ўчастковы. Як жа ён ціхенька прычальваў! Лодку прывязаў, на дымок падаўся... «Ну, – думае, – на гарачым вазьму!»

А мужчына той хітры быў. Ён госця яшчэ здалёк угледзеў. Таму ў кустах чакаў. З бітонам. І якраз каля «прычала». Карацей, участковы – з лодкі, а ён – у лодку. І да берага...

Пасля гэтага, казалі, «заводзік» закрыўся. А ўчастковы, удосталь наеўшыся рабінзонскага хлеба, зарок сабе даў і ў адзіночку «на справу» ніколі больш не хадзіў.

## Вінаваты булён

Жыў у вёсцы вельмі ціхі чалавек, ніякімі талентамі не вызначаўся. Звалі яго Пятрык. Даглядаў ён калгасных коней. Аднойчы здарылася непрадбачанае: кастрычніцкім ранкам, калі Пятрык пайшоў дахаты снедаць, воўк задушыў жарабя.

Выклікаў старшыня калгаса пастуха ў кантору і строга спытаў: «Як такое адбылося?» Пятрык даў праўдзівы адказ: «Ведаеш што, старшыня, пайшоў гэта я снедаць. А жонка зварыла булён на семсят пяць градусаў. Дык пакуль я здзьмухаўся, воўк жарабя і абсусоліў...»

## Пасля вяселля

Неўзабаве пасля вяселля ён з'ездзіў да бацькоў сваёй жонкі два разы запар. У першы прыезд не ўзяў ніводнай кроплі хмельнага ў рот, а ў другі – напіўся ў дыміну. Калі сябры спыталіся, чаму так зрабіў, ён ахвотна патлумачыў: «У першы раз паказаў, што не п'яніца, а ў другі – што не хворы...»

## Другая музыка

Неяк адзін мой аднавясковец, музыкант, расказаў мне на поўным сур'ёзе пра такую прыгоду: «Стала мне рабіцца нецікавай, нейкай прэснай родная жонка. Чую, што пайду да суседкі-ўдавы, стала быць, да чужой. А гэта, бачыць Бог, вялікі грэх. Я ж пад вянцом у царкве даваў клятву любіць і шанаваць жонку. Што рабіць? Падумаў добра ды знайшоў выйсце. Вечарам (а гэта была сярэдзіна лета) рашыў залезці да жонкі праз акно. А яно было ад вуліцы, дзе людзі ходзяць. Лез і азіраўся, каб часам хто не заўважыў мае «практыкаванні». Пабойваўся, каб не нажыць сораму, дальбог! Калі гаспадар крадзецца ў сваю хату, значыць, задумаў нешта нялюдскае... Усё абышлося, ніхто не згледзеў мае «фокусы». Расхваляваны, як ніколі, узрушаны і задыханы, хуценька шмыгнуў да жонкі пад коўдру. Божа мой, другая кабета, зусім другая музыка! Гавару гэта як гарманіст...»



## У аўтобусе

У аўтобус заходзіць мужчына сталага ўзросту, з твару – двайнік вядомага расійскага артыста Філіпава.

– Добры дзень! – ён гучна прывітаўся з усімі пасажырамі.

– Добры дзень... добры дзень... – пачулася ў адказ.

Мужчына не садзіўся, а стаяў каля кабіны вадзіцеля.

– Ну, хваліся, браце, як ты жывеш? – звярнуўся ён да шафёра.

– Нічога, – неахвотна адазваўся той.

Праз колькі хвілін двайнік Філіпава пакрыўджана пацікавіўся ў вадзіцеля:

– А чаму ты не пытаешся, як я жыву?..

## Вось гэта каханне!

Жыла ў маёй вёсцы ціхая, вельмі прыстойная пара – маленькі, гарбаценькі Пётра і яго добрая і бясконца спагадлівая жонка Надзя. Як жа яна яго кахала! Неаднойчы з вялікім замілаваннем казала суседкам: «Прыйдзе мой Пётра з лазні: бялізна на ім белаябелая, прасцінка на ложку таксама беленькая як снег. Ляжыць мой Пётрачка ў пасцелі: не Пётра, а – букет!..»

## У вас і ў нас

Было гэта даўно. Вясковы хлопчык упершыню трапіў у горад. Сваякі ягонага бацькі жылі на пятым паверсе жылога дома. Калі дзеці пачалі бегаць і шумець, гаспадыня кватэры папярэдзіла:

– Ціха, не насіцеся – пад намі ж людзі!

— Як — у вас пад падлогай людзі? — здзівіўся вясковы госць. — А ў нас дома — мышы...

## Выгадавалі сівака

Жылі муж і жонка, звалі іх Якуб і Надзя. Мелі сына. Валасы ў яго былі такія белыя, нібы смятанай вымазаныя. Бывала, падап'е — і давай «чытаць лекцыі» бацькам. Шум, крык — на ўсю хату. Якуб стаіць за спінай жонкі і скардзіцца: «Во, Надзя, выгадавалі сівака, дык аб'ездзіць няможна».

## І ёй хораша, і мне — слаўна

Сядзім на прызбе з аднавяскоўцам, прыпамінаем розныя забаўныя гісторыі.

«Аднойчы з суседам пасля лазні не тое каб папіва́лі гарэлкі, а, як у нас кажуць, пайда́лі, — успамінае мой субяседнік. — І, браток ты мой, нават не ведаю, як дахаты дапоўз. Раніцай прачнуўся — галава трашчыць, здаецца, вось-вось расколецца папалам. Каля ложка боты валяюцца. Мае ці не мае, пазнаць цяжка: столькі на іх гліны і чамусьці вапны. Спаў у штанах. Адна калашына парвана. Паглядзеў у люстэрка — нос абдзёрты, пад правым вокам сіняк. І хто мяне так размаляваў?..

Пайшоў у хлеў, напаіў карову з цялушкай, даў ім травы. А рукі трасуцца, як у злодзея, цела даймаюць дрыжыкі, хаця цёплая летняя раніца. І халодны пот — жыць не хочацца. А думкі, браце ты мой, шыбуюць толькі ў адным напрамку: як пахмяліцца?

Паклікала жонка снедаць. Мільганула думка: «А раптам знойдзе хоць трошкі «божых слёз» і палечыць мяне?» Ды дзе там — здаровы хвораму не паспачувае. Поркнуў відэльцам у драны блін, што ляжаў на ўсю патэльню — не да яды. Зрабіў некалькі глыткоў гарбаты — занылі ўсе вантробы.

Гляджу, мая Мэля апранаецца ў святочнае адзенне. «Куды, — пытаюся, — збіраешся?» «У касцёл», — адказала, нават не глянуўшы ў мой бок. Злавалася, вядома. Дарэчы, яна ў мяне набожная: кожную нядзелю наведвае святы храм, хоць ён і не так блізка ад нас — туды і назад кіламетраў дванаццаць дарогі. Калі на ровары дабіраецца, калі пехатой.

Застаўся я адзін дома, пачаў шукаць, чым пахмяліцца. Падаўся ў каморку, варыўню, паветку — няма! А кроў балюча тахкае ў скроні, і чуецца толькі адно: пахмяліцца, пахмяліцца... І тут прыпамінаю: мая Мэля тыдзень таму купіла бутэльку каньяку. Бабы параілі ім хворае горла паласкаць. Дзе ж тая бутэлечка, дзе ж мой выратавальны круг?

Не стаў нідзе пароцца, каб не нарабіць вэрхалу. Рашыў знайсці метадам развагі. Стаю і кажу сам сабе: «Тут няма, там няма...» І — о, Божа! — бачу на печы жончыны валёнкі. Хуценька залез на печ, а сэрца трапечацца як авечы хвост. Сунуў руку ў Мэлін валёначак — ёсць, родненькая! Я за рыльца яе, пацалаваў са два разы ў этыкетачку. Акуратненька злажу на палок, з яго на падлогу спакойненька так ногі апускаю, каб незнарок не выпусціць з рук мой «выратавальны круг». Прыціснуў бутэлечку да грудзей, як у маладосці сваю шчабятушку Мэлю. Спяшаюся да акна, выстаўляю на святло — сто грамаў зрасходавана, не болей. Гэта ж сколькі яшчэ засталося!..

Дастаў з бочачкі крамяны агурок, ачысціў галоўку цыбулі, нарэзаў сальца. Наліў чарачку, але адразу піць не стаў — у такі момант нельга спяшацца. Паглядзеў на сябе ў люстэрка, паправіў валасы, каўнер кашулі, прайшоўся некалькі разоў па кухні... Выпіў, затрымаў на нейкі міг дыханне, потым моцна крактануў ад задавальнення — напой быў незямны! Запякло ў грудзях, разлілося гарачынёй па кішках, у галаву ўдарыў лёгкі хмель. Пасля другой чарачкі чамусьці захацелася ўзмахнуць рукамі і ўзляцець на бярозу, каб адтуль любавацца светам. Пасля трэцяй меркі свет пашырыўся ў сваіх межах, і я ціхенька заспяваў: «Раскинулось море широко...»

Пакінуў у бутэльцы грамаў так восемдзесят сем. Вызначыў пры дапамозе кронцыркуля: ты ж знаеш, я някепскі токар. Шкада было пакідаць такое «лякарства» на несур'ёзную жончыну патрэбу, але сумленне трэба мець. Даліў вады — і каньяку стала столькі, колькі і было. Я ж стрэляны верабей: перад піццём рысачкай на этыкетцы пазначыў узровень «гаручага» ў бутэльцы. Пах і афарбоўка захаваліся, а моц для маёй Мэлі нічога не значыць, яна ж каньячок — эх, як і дараваць такое! — выплёўвае. Залез на печ, паставіў бутэльку ў той валёнак, з якога ўзяў.

Апоўдні вярнулася з касцёла жонка, нейкая светлая з твару. А што, нічога дзіўнага: прыняла прычасце, памалілася. Пэўна ж, і за мяне закінула перад Богам слова. Бо невыпадкова у вачах пасвятлела...

Зайшоў я за нечым у святліцу, гляджу: палезла мая Мэля на печ. Затаіў дыханне: знюхае маю шкоду ці не? Чую, палошча горла. Злезла з печы, выплюнула «лякарства» ў вядро. Паклікала мяне да стала. Селі, абедаем, гутарым пра сёе-тое...

І ёй — хораша, і мне — слаўна!..»

*Пастаўскі раён,*
*в. Камаі.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Таццяны МАСОЛ,
тэма Міхася ШАВЕЛЯ.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Міхася КАВАЛЁВА.

## УСМЕШКІ

### Вегетарыянец

Антося бяруць на працу на мясакамбінат. Начальнік папярэджвае:

— Возьмеш каўбасу — адразу звольню!

— Ды навошта яна мне! — махае рукою Антось. — Я неяк купіў яе ў магазіне ды забыўся на лавачцы перад хатай. Да самага ранку праляжала, а сабака і носам не павёў! — і асёкся, зразумеўшы, што сказаў не тое. Але хутка знайшоўся: — Ён жа ў мяне вегетарыянец! Як мяса пачуе, адразу адварочваецца. А ў вашай каўбасе, відаць, адно мяса!..



### Маўчы і ты!..

Ганна крычыць суседцы:

— Манька, твой сабака мяне за нагу цапнуў! Буду ў суд падаваць.

— Ай, які там сабака — шчанюк, — адмахваецца тая. — Колькі ён там ухапіў! Мяне твой муж учора таксама каля плота прыціснуў. Ох, і моцныя ў яго рукі!.. Я ж у суд не падаю. Маўчы і ты!..

**Даслаў Пятро БАБРУК,**
*Пружанскі раён, в. Шубічы.*



### Асёл і мужык

Увесну (выбраў жа пару!)
Асёл свайму гаспадару
Паведаміў, што больш не хоча
Ірвацца з раніцы да ночы.
Кармоў тых самых —
кот наплакаў,
Ды і працуе ён за «дзякуй».
Перацягай салому, дровы,
Гной на палеткі з-пад каровы,
Сам рамантуй хамут, калёсы,
Ну, словам, не жыццё,
а слёзы.
Патыліцу мужык пачухаў,
Ды што рабіць —
Асла паслухаў.
Аб'яву даў ён у газеце:
«Найлепшы гаспадар у свеце
Для працы ва умовах раю
Аслоў і коней запрашае».
Няма адбою ад ахвочых,
У рай працоўны кожны хоча.
Ды вось бяда: ніводзін новы
Не вытрымаў іспыт суровы.

Мужык той рацыі не меў,
Асла свайго не зразумеў.
Што ж: век жыві — і век вучыся —
І моліць ён Асла:
— Вярніся!

**Сяргей ПРЫЁМКА,**
*г. Мінск.*










## Добрай дарогі, Міхась!

Міхась СТЭФАНЕНКА – гумарыст малады, але дасведчаны. Упершыню ён надрукаваўся, калі яму было 9 гадоў: у дзіцячай газеце «Пикничок». А калі падрос, пасябраваў з «Вожыкам». І шчыра палюбіў наша калючае выданне. Прозвішча Міхася Стэфаненкі ўжо з'яўлялася на старонках «Вожыка» – як аўтара тэм для малюнкаў. Падаахвочаны і падтрыманы нашым мастаком, вядомым карыкатурыстам Аляксандрам Каршакевічам, юнак паспрабаваў маляваць сам. І сёння мы вітаем яго як мастака. Вядома, Міхасю трэба яшчэ шмат вучыцца і працаваць, але яго першыя мастакоўскія крокі, несумненна, радуюць вока.

Міхась
СТЭФАНЕНКА























**Васіль РАМАШКА**

## Будзе дом!

З неба пер'е, нібы снег,
Сыпле. Што за ліха?
За шпакоўню Верабей
Б'ецца са Шпачыхай.
– З восені я тут, даўно.
Тут мая кватэра.
Не шчаміся – пазаву
Міліцыянера!
Падыходзіць дзед Язэп:
– Я тут участковы.
Памірыцеся хутчэй,
Будзе домік новы.
Гляньце – Мішка, мой ўнучок,
Вунь габлюе дошкі.
Будзе дом вам, што палац,
Пачакайце трошкі.





## Школьная казка

Здарылася тое ў гэтым навучальным годзе або ў мінулым, у нашай школе або ў суседняй, а можа, і ў вашым класе – не важна. Але ж было...

Адзін Вучань не паважаў школьныя прылады. Ён лічыў, што Ручка дрэнна піша дыктанты і рашае задачы, Аловак не ведае членаў сказа, Лінейка – крывабокая, Цыркуль – касалапы, а Гумка – гультайка, бо не выцірае ўсіх памылак... Але больш за ўсё Вучань не любіў Чырвоную Ручку – прыдзіру і настаўніцкую падлізу, якая штодзень ставіла яму дрэнныя адзнакі.

Доўга трывалі старанныя працаўнікі Пенала такія абразы, усё імкнуліся выручыць свайго гаспадара. І нарэшце, пакрыўджаныя, вырашылі не дапамагаць больш няўдзячнаму Вучню.

– Хопіць! – строга сказала Чырвоная Ручка. – Я загадваю вам не выходзіць з Пенала. А калі гэты невук сілай прымусіць вас працаваць, не дапамагайце: няхай усё робіць сам!

– Але, трэба сябе паважаць! – падтрымала сваю сястру Сіняя Ручка.

– Правільна! – у адзін голас адгукнуліся Лінейка, Аловак і Цыркуль.

Толькі Гумка маўчала, бо была самай добрай. Яна і працавала больш за ўсіх: імкнулася выцерці ўсе памылкі, схаваць іх ад Чырвонай Ручкі. Але Гумцы даставалася больш за ўсіх.

– Лянівіца! Няўмека! – усё часцей крычаў на яе Вучань і злосна шчыпаў бядачку за бок.

Гумка схуднела, паменшала і неўзабаве захварэла... Іншыя ж прылады працавалі абы-як: Вучню ад іх – ні падказкі, ні парады, ні іншай дапамогі. А Чырвоная Ручка ставіла яму толькі адзінкі і двойкі.

...Чырванеючы ад сораму за дрэнныя адзнакі, Вучань заплакаў. Затым узяў свой Пенал і ўпершыню акуратна паклаў яго на стол.

– Не шанцуе мне, сябры... Можа, дапаможаце чым-небудзь? – папрасіў ён у Сіняй і Чырвонай Ручкі, Алоўка, Лінейкі, Цыркуля, Гумкі... – А то я зусім невукам стаў!

Пачулі школьныя прылады добрыя словы і забыліся на ўсе крыўды, нават Чырвоная Ручка памякчэла. Праўда, папярэдзіла Вучня:

– Гумку беражы, не прымушай яе шмат працаваць. Пісаць старайся без памылак.

– Ляжы ў Пенале, Гумачка, я буду добра вучыцца, усе-ўсе правілы вывучу! – паабяцаў Вучань.

Пачуўшы такія шчырыя словы, Гумка адразу паздаравела. А вучань стаў добра вучыцца, і з Чырвонай Ручкай яны зараз – найлепшыя прыяцелі.

Я сама ўсё гэта бачыла, за ўсім назірала, вам для навукі расказала.

**Ганна ТКАЧЭНКА,**
*вучаніца 7-га класа Сенніцкай САШ імя Я. Купалы.*







## Таму і прыгожая

— Праўда, Таня, наша мама — вельмі прыгожая! — гаворыць тата пяцігадовай Тані.

— Канечне, — адказвае малая. — Яна ж бярэ маю парфуму.

## Надакучыла

Сям'я ўкладваецца спаць. Раптам Юрачка заўпарціўся:

— Не буду распранацца!

— Чаму? — дзівіцца маці.

— А заўтра зноў апранайся... Надакучыла!..

**Даслаў Міхась СЛІВА,** *г. Рагачоў.*

Адказы на крыжаванку «Кветка»:
1. Пол.
2. Рука.
3. Аршын.
4. Ляноты.
5. Шчасце.
6. Колас.
7. Язык.
8. Ежа.

Выдзеленае слова — пралеска.

Правядзі Машу і Віцю да спелых смачных яблыкаў.



Малюнак і лабірынт Андрэя СКРЫННІКА.

# Крыжаванка «Кветка»

*Калі ты правільна адгадаеш прапушчаныя словы ў прыказках і запішаш іх па гарызанталі, то ў выдзеленых вертыкальных клетках прачытаеш назву кветкі, якая расцвітае адразу пасля раставання снегу.*

1. Які ..., такі і прыход.
2. ... руку мые.
3. Мерацць на свой ...
4. Ад ... чакай бядоты.
5. ... як шкло: лёгка разбіваецца.
6. Пусты ... заўсёды нос уверх дзярэ.
7. ... мой — вораг мой.
8. Чалавек без сябра, што ... без солі.








Малюнкі Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Васіль ТКАЧОЎ** **Дзве гумарэскі**




Надоечы, калі Мармалюк ляжаў у бальнічнай палаце пад кропельніцай, да яго падкраліся страшныя думкі. Маўляў, як ні круці, а давядзецца памерці. Зажмурыў ён вочы, а перад ім – нібыта Смерць з касой. Стаіць у парозе, вачыма бліскае.

– Збірайся, стары, – кажа, – хопіць неба капціць. Надакучыў ты ўсім, Мармылюк. І жонцы, і дзецям... Не кажучы пра ўрачоў з медсёстрамі. Не вылазіш з лячэбніцы! Трэба паміраць! Ну, якая з цябе карысць?

Мармалюк задумаўся: сапраўды, якая? З жонкай ужо даўно не спіць, грады не капае, бо хвароба на хваробе: ні сагнуцца, ні ўстаць. Ды і смерць, калі падумаць, не такая страшная. Тэлевізар сёння куды больш страшна глядзець! Гэтая хоць з касой, а там жа на кожным канале – забіваюць, рэжуць, гвалцяць, страляюць, падрываюць, калечаць... Жах! І хацеў ужо Мармалюк сказаць Смерці: «Забірай мяне, касая! Там горш не будзе», як адумаўся.

«Ха, забірай! – разважаў ён сам з сабою. – Я ж у чарзе на аперацыю на вока стаю! Катаракта ў мяне, а паабяцалі замежны хрусталік паставіць. І да кардыёлага ў чаргу запісалі. Чашачку яшчэ ў калене замяніць трэба: я ж у траўматолага нядаўна на прыёме быў. Свая чашачка, урач сказаў, сцёрлася: відаць, шмат па свеце блукаў... Во! Як гэта я забыўся – новыя ж сківіцы праз месяц ставіць будуць! Не, трэба пачакаць!..»

Мармалюк расплюшчыў вочы, зірнуў у парог. Там нікога не было. Але на ўсялякі выпадак ён ціхенька тыцнуў у той бок кукіш...




У кватэры Кісяльковых затрэнькаў тэлефон. Як заўсёды, трубку схапіла Серафіма Пятроўна.

– Што ў цябе, сынуля? – не даўшы і слова прамовіць Валіку, адразу ж спыталася маці і ўся насцярожылася. – Кажы, нічога не ўтойвай. Прызнавайся!.. Хто ж, як не мамка твая, цябе пашкадуе?.. Жонка, кажаш, ежу лянуецца гатаваць? Галадаеш?.. Ну і гультайка!.. І посуд прымушае мыць?.. Нічога сабе! Дык гэта ж не мужчынская справа! Ну, пачакай, Галюня, дабяруся я да цябе!.. Ты вось што, Валік, больш строга з ёй, ага, больш строга!.. Будзь мужчынам! Пакажы характар! Так-так!.. Пацярпі, сынок, я заўтра прыеду!.. Я навяду парадак! Не хвалюйся. Не перажывай... Нічога, яна ў мяне паскача!.. Прымушае посуд мыць! Есці гатаваць! О Божа, якія здзекі! Свет перакуліўся!.. Зусім перавяліся на свеце жонкі! Чакай, сынуля, трымайся, я заўтра прыеду!..

Серафіма Пятроўна паклала трубку, адсаплася і пайшла на кухню:

– Ну, хто так посуд мые? Лепш трэба церці! А што там на пліце? Усяго толькі катлет насмажыў ды боршч зварыў?! Ну і муж мне трапіўся! Свет перакуліўся! А дзе мае любімыя піражкі з капустай?..

# Чорны гумар



Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнкі Андрэя СЛУЦКАГА.



①



②



③



④

Міні-комікс Леаніда ГАДУНА.